www.nv-online.info

№ 41 (4088)

31 мая 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

УПЕРШЫНЮ!



# У гасцях у Гродне – студэнт са Шры-Ланкі

*На свяце нацыянальных культур у Гродне выступяць госці з экзатычных краін свету.*

На наступных выхадных, 4–5 чэрвеня, у Гродне пройдзе чарговы XI Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур. Сёлета ён упершыню адбудзецца пад патранатам ЮНЕСКА. Асаблівасць форуму ў тым, што на ім выступаюць прадстаўнікі розных нацыянальнасцяў. Але гэтыя людзі абавязкова павінны пражываць у Беларусі.

У імпрэзах возьмуць удзел 800 удзельнікаў, якія прадстаўляюць 38 нацыянальнасцяў. На форуме ўпершыню выступяць два прадстаўнікі Нігерыі (што ў Афрыцы) і Шры-Ланкі (аднайменны востраў размешчаны недалёка ад Індыі). Абодва з'яўляюцца студэнтамі беларускіх ВНУ.

**Васіль СТАСЕВІЧ.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Паўла Вінаградава зноў будуць судзіць

Павел Вінаградаў – адзін з фігурантаў справы аб "масавых беспарадках", заведзенай пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года. Тады хлопец быў асуджаны на 4 гады пазбаўлення волі, аднак на свабодзе апынуўся восенню 2011-га пасля таго, як Аляксандр Лукашэнка падпісаў адпаведны ўказ.

Адразу пасля выхаду на волю за Вінаградавым быў усталяваны прэвентыўны нагляд. Павел быў вымушаны з'яўляцца ў органы ўнутраных спраў па першым патрабаванні. Аднак гэтая мера была скасавана прыкладна год таму.

І вось зараз прэвентыўны нагляд за маладзёжным актывістам можа быць вернуты. Гэтае пытанне будзе вырашацца 7 чэрвеня ў судзе.

*"Мая судзімасць "пагашаецца" толькі 14 верасня бягучага года,* – гаворыць Павел. – *І фармальна прэвентыўны нагляд можа быць вернуты ў выпадку, калі на чалавека з непагашанай судзімасцю складзены тры адміністрацыйныя пратаколы".*

Пасля зняцця прэвентыўнага нагляду пратаколы на Вінаградава і сапраўды складаліся. Адзін з іх, напрыклад, быў складзены на актывіста зімой бягучага года пасля акцыі ля будынка інспекцыі па падатках і зборах Мінска. Тады актывісты прынеслі падаткавікам труну з надпісам: "У труне мы бачылі вашы падаткі".

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

БЕЗ РЭТУШЫ

Іван ПЯСЕНКА,
настаўнік гісторыі, дэлегат Усебеларускага народнага сходу:



# «Зарабляю няшмат, але па бабруйскіх мерках годна»

Можна ўявіць шматлікасць удзельнікаў намечанага на 22–23 чэрвеня так званага Усебеларускага народнага сходу, калі толькі ад Бабруйска паедзе 70 чалавек. Сярод іх – і настаўнік гісторыі гімназіі №3 **Іван ПЯСЕНКА.** Днямі ён даў інтэрв'ю адной праўладнай газеце. Сказаў, што *«ў нас створаны ўсе ўмовы для таго, каб настаўнік мог развівацца. Вось толькі і даволі часта ўносяцца змены ў вучэбную праграму, карэкціруюцца навучальныя дапаможнікі»*. Тут, на яго погляд, павінна быць больш стабільнасці.

«Народная Воля» вырашыла таксама ўзяць інтэрв'ю ў Івана Пясенкі. Мы звязаліся з настаўнікам па тэлефоне, і ён, трэба адзначыць, у адрозненне ад многіх, не пачаў адмаўляцца ад экспрэс-інтэрв'ю, не стаў спасылацца на тое, што, маўляў, не бачыць перад сабой журналіста, а шчыра адказаў на нашы пытанні.

**– Іван Эдуардавіч, у вас будзе магчымасць выступіць з трыбуны з'езда?**

– Я выступаў на гарадскім сходзе. Што будзе на Усебеларускім – не ведаю. Магчыма, слова мне прадаставяць, але пакуль пра гэта не паведамлялі.

**– Калі ўявіць, што такая магчымасць у вас усё ж такі будзе, акрамя адсутнасці стабільнасці ў навучальным працэсе, аб чым бы яшчэ хацелі сказаць, на якой праблеме завастрыць увагу? Можа, падняць пытанне заработнай платы ў адукацыі?**

– Сёння маладым настаўнікам пачынаць працаваць вельмі цяжка, зарплаты сапраўды нізкія, максімум, што яны могуць зарабіць: 3–3,5 мільёна. Але калі напрацоўваецца стаж, назапашваецца вопыт... Я не магу сказаць, што зарабляю шмат, але па бабруйскіх мерках годна.

**–Калі не сакрэт, колькі?**

– Бруднымі мільёнаў шэсць, шэсць з паловай.

**– І вы лічыце, што гэта годная зарплата настаўніка гімназіі? Вас, вашых калег яна задавальняе?**

– Гэта як паглядзець. Кажучы пра заробкі, трэба рабіць агаворкі. Верагодна, невысокія зарплаты – гэта адна з прычын падзення прэстыжу прафесіі настаўніка. Але калі параўнаць, то сярэдні заробак па Бабруйску значна ніжэйшы. За 9 гадоў працы мне ні разу не затрымлівалі зарплату нават на адзін месяц. Я пакуль не жанаты, можа, таму мне хапае.

– Прабачце, але атрымліваецца, што задавольваецеся малым?

– Хто хоча – выкручваецца. Добры педагог можа і не жыць на адну зарплату, знаходзіць дадатковыя заробкі – рэпетытарства, піша артыкулы.

**-- А гэта нармальна?**

– Канешне, не.

**– Дык, можа, пра гэта і трэба перш за ўсё гаварыць з высокіх трыбун?**

– Магчыма, але праблем у адукацыі насамрэч вельмі шмат. На мой погляд, спачатку неабходна наладзіць адукацыйны працэс, каб не было рэзкіх змен у праграмах, у падручніках. За ўсе гады, што я працую ў школе, напэўна, не было і года, каб планаванне новага навучальнага года праходзіла па ранейшых праграмах. Кожны год у нас штосьці змяняецца і не заўсёды сістэма паслядоўная. Тыя ж профільныя класы: спачатку адмянілі, зараз уводзяць зноў. Цяпер пераглядаецца ЦТ, плануецца, што з наступнага года з'явяцца заданні творчага тыпу, як у расійскім Адзіным дзяржаўным экзамене.

***(Заканчэнне на 2-й стар.)***

ПУЛЬС

## Сямашка не дамовіўся

Віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Сямашка правёў са сваім расійскім калегам Аркадзем Дварковічам сустрэчу па пытанні цаны на газ, які пастаўляецца ў Беларусь. Рашэння па рознагалоссях пакуль не знойдзена, паведаміла агенцтва РИА "Новости" са спасылкай на крыніцу, якая ўдзельнічала ў абмеркаванні з расійскага боку.

Як вядома, з пачатку года беларускія ўлады ставяць пытанне аб справядлівасці цяперашняй цаны расійскага газу для нашай краіны. У прыватнасці, прэм'ер-міністр краіны Андрэй Кабякоў казаў, што цана расійскага газу для Беларусі павінна складаць 80 долараў за тысячу кубаметраў замест бягучых 142 долараў. Больш за тое, кіраўнік Мінэнерга РФ Аляксандр Новак заяўляў, што Беларусь за студзень–красавік 2016 года завінавацілася «Газпрому» больш за 125 мільёнаў долараў.

## Бедных паболела

У першым квартале колькасць сем'яў, якія жывуць за мяжой беднасці, зноў павялічылася. Калі на пачатак года малазабяспечаных хатніх гаспадарак было 147 тысяч 179, то па выніках першага квартала іх колькасць перавысіла 151 тысячу.

Паводле звестак Белстата, за рысай беднасці ў першым квартале аказалася 3,9% ад агульнай колькасці хатніх гаспадарак краіны. Гэта сем'і, якія дазваляюць сабе ў месяц суму, меншую за бюджэт пражытачнага мінімуму (каля 1,7 мільёна рублёў). Усяго ў Беларусі па дадзеных перапісу насельніцтва 2009 года налічваецца 3 мільёны 873 тысячы 139 хатніх гаспадарак.

НАДВОР'Е

## К выхадным крыху пахаладае...

Усе працоўныя дні, прагназуюць сіноптыкі, будуць цёплымі. Сёння днём +22...+28, кароткачасовыя дажджы і навальніцы. З **1 па 3 чэрвеня** ў Беларусі пераважна без ападкаў, толькі па паўднёвым захадзе краіны прагназуюцца кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература ноччу +10...+17°С, днём +19...+26°С.

У выхадныя ўладу над надвор'ем возьмуць атмасферныя франты з паўночнага захаду: прыйдзе воблачнасць і дажджы, а таксама ўсталюецца больш свежае надвор'е. У суботу ноччу +7...+14°С, днём +18...+25°С. У нядзелю ноччу месцамі, днём на большай частцы тэрыторыі пройдуць кароткачасовыя дажджы. У асобных раёнах навальніцы. Тэмпература ноччу +7...+14°С, днём +16...+23°С.

СДЕЛКА

## МАЗ хочет получить почти 2 миллиона долларов

«Минский автомобильный завод» – управляющая компания холдинга «БЕЛАВТОМАЗ» – предлагает к продаже третьим лицам 3 тыс. 9 акций (44,4% уставного фонда) совместного белорусско-немецкого предприятия закрытого акционерного общества «МАЗ-МАН», сообщили БЕЛТА в пресс-службе Государственного комитета по имуществу.

Стоимость пакета акций в валюте ценообразования (с учетом округления до целого числа) – 1,808 млн долларов. Покупателям предлагают рассрочку на полгода.

Белорусско-немецкое предприятие производит грузовики, погрузчики и снегоболотоходы.

ВІНШУЕМ!



# Яна – першая!

Сёння дзень нараджэння ў пісьменніца Святланы Алексіевіч. Але ў Мінску яе няма. І тэлефонныя званкі пачалі раздавацца ў рэдакцыі "Народнай Волі" – як павіншаваць, дзе знайсці, каб выказаць шчырыя захапленні? І тады мы прапанавалі чытачам старонкі нашай газеты – яе Святлана Аляксандраўна, калі вернецца з камандзіроўкі, прачытае абавязкова.



## Я жадаю Святлане Аляксандраўне новых кніг – па-беларуску

**Наталка БАБІНА, старшыня Таварыства ўкраінскай літаратуры пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў:**

– Я жадаю Святлане Аляксандраўне новых кніг! А беларускім чытачам яе – каб гэтыя кнігі былі па-беларуску. Святлана Алексіевіч, чалавек заўсёды самастойных і неардынарных рашэнняў, дабілася ўсяго са сваёй прозай, напісанай па-руску. Якім моцным, якім натхняючым для нас крокам стала б, калі б сваю наступную кнігу яна паспрабавала напісаць на беларускай, не чужой для яе, як яна заўсёды падкрэслівае, мове. Гэта стала б яе чарговай перамогай, і моцна памагло б беларушчыне. Увогуле, Святлана Алексіевіч, у якой маці была ўкраінкай, а тата беларусам, для мяне такі жывы сімвал беларуска-ўкраінскага культурнага супрацоўніцтва, і я дужа рада, што ў першым нумары беларуска-ўкраінскага альманаха "Справа" друкаваўся ўрывак з яе кнігі "Час секанд-хэнд", які я пераклала на ўкраінскую мову. Гераіня гэтага ўрыўка жыве на Брэстчыне, і я намагалася перакласці яе мову з літаратурнай рускай на такую, якой гавораць на Брэстчыне.

Уплыў Святланы Алексіевіч у маштабах планеты Зямля зараз вялізны. І я жадаю – але гэта ўжо не ёй, а нашым дзяржаўным чыноўнікам – зразумець гэта і годна адзначыць яе заслугі найперш тут у нас у Беларусі.



## «Цинковые мальчики» – это мальчики моего поколения

**Виктор БАБАРИКО, белорусский банкир, филантроп, коллекционер:**

– Уважаемая Светлана Александровна! Мое знакомство с Вами (заочное) и Вашим творчеством (очное) началось с книги «Цинковые мальчики». «Цинковые мальчики» – это мальчики моего поколения. В то время нас воспитывали в духе героизма войны, в духе того, что добро должно быть с кулаками, что может быть справедливая и оправданная война. Но вы показали не героизм войны, а ее внутреннюю ужасающую суть через судьбу тех самых мальчиков и девочек. Вы еще раз напомнили миру, что, начиная войну, ты заключаешь сделку с дьяволом, в которой не может быть никакого победителя, кроме одного владыки тьмы. Эта простая мысль, к всеобщему прискорбию, опять стала актуальной в наши дни. Я хотел бы Вам пожелать твердости духа, ясности ума, радости сердца и здоровья тела! Пусть Ваши произведения будут и дальше воспитывать поколения сторонников гуманистической идеи. С днем рождения!

***(Працяг на 3-й стар.)***

РЭХА ТРАГЕДЫІ

## Ці адчувае Юрый Сівакоў віну за трагедыю на Нямізе?

*17 гадоў таму ў пераходзе станцыі метро "Няміга" загінулі 53 чалавекі.*

Трагедыя адбылася 30 мая 1999 года. Па факце гібелі людзей была распачата крымінальная справа, аднак вінаватых не знайшлі. Галоўным вінаватым у трагедыі быў фактычна прызнаны «збег абставін».

Родныя ахвяраў неаднаразова звярталіся ў суды з іскамі да гарадскіх улад, міліцыі, арганізатараў «Піўнога фэсту» – піўзавода «Аліварыя», радыёстанцыі «Мир» і кампаніі «Клас-клуб ДК», аднак гэтыя іскі не былі задаволены.

У той час міністрам унутраных спраў Беларусі быў Юрый Сівакоў. Ці адчувае ён сёння пэўную віну за трагедыю 17-гадовай даўніны?

"*У гэтай справе вельмі дасканала разбіраліся следчыя, спецыяльная камісія*, – распавёў **Юрый Сівакоў** "Народнай Волі". – *У дзеяннях тых, хто ажыццяўляў ахову правапарадку, следчыя нічога крамольнага не знайшлі. Былі пытанні да арганізатараў, якія зладзілі "танцы на касцях" падчас Хроснага ходу. Да таго ж быў збег абставін – і надвор'е, і цэлы шэраг іншых момантаў... Але, паўтаруся, калі казаць пра дзеянні супрацоўнікаў міліцыі, то не было тады нейкіх момантаў, за якія зараз было б сорамна і мучыла б сумленне*".

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЧУЛІ?

## У Крупках масава судзяць прадпрымальнікаў

Раней, 5 красавіка, супрацоўнікі міліцыі (ОБЭП) прыйшлі на мясцовы рынак з праверкай. Прадпрымальнікі, як сцвярджаюць, былі ўпэўнены, што ў іх усе дакументы адпавядаюць указу №222 і папросту вырашылі зачыніць свае гандлёвыя кропкі. У выніку міліцыянеры склалі пратаколы на тых прадпрымальнікаў, чые ралеты былі апушчаны. Усяго – 26 адміністрацыйных пратаколаў. Праз нейкі час прадпрымальнікам паведамілі, што іх не будуць судзіць па гэтых абвінавачаннях. Аднак не паспелі яны абрадавацца, што ўсё скончылася добра, як на іх паступілі новыя пратаколы. Гэтым разам іх абвінавацілі ў парушэнні правілаў гандлю: яны зачыніліся нібыта раней пазначанага тэрміну без дазволу адміністрацыі. За гэта парушэнне прадугледжана пакаранне ад 0,25 да 10 базавых велічынь. Прадпрымальнікі кажуць, "што насамрэч улады хочуць прадэманстраваць, што мы знаходзімся ў залежнасці ад іх".

Судовыя працэсы адбыліся ўчора. Пакаранні суд выносіў розныя, некаторых прадпрымальнікаў нават апраўдалі, некаторым выпісалі мінімальны штраф, бо яны прызналі сваю віну. Самы вялікі штраф – 2 базавыя велічыні атрымаў Аляксандр Бандарэнка. "*Ён не толькі не прызнаў сваёй віны, але і запрасіў на суд журналістаў*, – паведамілі яго калегі.

Дарэчы, спецыяліст аддзела эканомікі Крупскага райвыканкама, Надзея Бераснёва, якая, па словах прадпрымальнікаў, выклікала 5 красавіка ОБЭП на прадпрымальнікаў, "Народнай Волі" сваю пазіцыю пракаментаваць адмовілася.

**Любоў ЛУНЁВА.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
31 МАЯ 2016 г.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



## Віталь Гуркоў:
# «Зараз можна і паспяваць!..»

*Баец, які стаў 11-разовым чэмпіёнам свету па муай-тай, распавёў “Народнай Волі”, як ён адзначыў перамогу.*

Увогуле, на гэтым першынстве беларусы заваявалі 10 медалёў. З іх пяць – залатыя.

Да Віталя Гуркова (вагавая катэгорыя да 75 кг) была асаблівая ўвага, бо патрапіў ён на чэмпіянат з пэўнымі складанасцямі. Яго паездка ў Швецыю была пад пытаннем, бо ў зборнай быццам бы не маглі знайсці грошы. У адказ на гэта грамадскасць за адзін дзень сабрала неабходную суму для спартсмена – каля 3 тысяч еўра. Праўда, затым Міністэрства спорту ўсё-такі прафінансавала паездку “народнага чэмпіёна” на чэмпіянат…

– Я надзвычай моцна задаволены, – шчыра прызнаецца мне Віталь пасля вяртання ў Мінск са Швецыі. – Мабыць, як ніколі ў жыцці.

**– У фінале вы перамаглі Экапана Самбаансаба з Тайланда, які не саступаў у баях ужо 4 гады запар…**

– І напярэдадні мяне ім палохалі. Маўляў, непераможны… Але, як паказаў час, можна працаваць і з непераможнымі.

**– Як атрымалася, што за чатыры гады вы так паміж сабой і не сустрэліся?**

– Тайскі баец выступае сярод прафесіяналаў, а ў мяне няма менеджара, таму прафесійных баёў праводжу не так шмат.

**– Нейкім чынам адзначылі дома перамогу?**

– Адзначыў сустрэчамі з блізкімі людзьмі.

**– А Сяргей Міхалок, з якім вы разам выступаеце ў гурце Brutto, павіншаваў?**

– Так, яшчэ ў Варшаве, праз якую мы ляцелі дадому. Я яго ў хуткім часе пабачу ў Кіеве на рэпетыцыі. Мае музычныя захапленні нікуды не зніклі, спорт і музыка – гэтыя дзве рэчы ідуць у маім жыцці паралельна. Так што пасля пераможнага выступлення можна і паспяваць.

**– Вы ўдзячны Міністэрству спорту за тое, што знайшлі грошы на паездку?**

– І міністэрству ўдзячны, і людзям, якія распавядалі пра сітуацыю, што склалася. Можа быць, міністр спорту і не ведаў, што там адбываецца, а так пачуў і прыняў рашэнне.

**– Народная падтрымка дадавала вам у Швецыі сіл?**

– Дадавала адказнасці. Была ўпэўненасць, што перамагу, бо прайшоў да чэмпіянату складаны шлях і загартаваўся. Усё самае складанае, што магло адбыцца, ужо адбылося. Былі і непрыемныя траўмы за тыдзень да ад’езду, і іншае…

**– Колькі прэміяльных вы атрымаеце ад Міністэрства спорту?**

– Нават і не ведаю, мяне гэтая тэма нязначна клапоціць. У Швецыю я ездзіў не за прэміяльнымі, а біўся за ідэю. Не так і значна было для мяне пацвердзіць свой чэмпіёнскі статус альбо захаваць заробак. Галоўнае – праз перамогу выказаць падзяку і павагу тым людзям, якія ў мяне паверылі.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ВІНШУЕМ!



# Сёмая Алімпіяда Кацярыны Вялікай

*2 чэрвеня двухразовая алімпійская чэмпіёнка і шасціразовая чэмпіёнка свету па акадэмічным веславанні Кацярына Карстэн адзначыць свой 44-ы дзень нараджэння.*

Акрамя таго, стала вядома, што тытулаваная беларуска атрымала права прыняць удзел у Алімпійскіх гульнях сёмы раз запар.

На Алімпіядзе-1992 у Барселоне Кацярына, якая выступала тады пад дзявочым прозвішчам Хадатовіч, заваявала **бронзу** ў складзе экіпажа чацвёркі парнай, затым былі медалі ў адзіночках: **два золаты** (Атланта-1996 і Сідней-2000), **срэбра** (Афіны-2004) і бронза (Пекін-2008).

На Гульнях у Лондане-2012 Кацярына Карстэн заняла 5-е месца, выступаючы са зламанымі рэбрамі.

– Каця, безумоўна, доўгажыхар у спорце, – распавёў “Народнай Волі” **Анатоль Квяткоўскі**, які трэніраваў Кацярыну, калі тая заваявала ў Атланце свой першы залаты медаль. – Вытрымаць сем Алімпіяд (асабліва для жанчыны) – гэта не кожны здолее. Але хачу сказаць, што веславанне для спартсменкі стала справай усяго яе жыцця. Падабаўся ёй гэты від спорту, аддавала шмат яму… Добры заклалі фундамент, таму да гэтага часу ў страі.

**– 44 гады для веславання – гэта ўзрост?**

– Натуральна, бо многія ў 38–40 ужо сыходзяць. Як у нас кажуць, “вытворчы” ўзрост у весляроў – 22–28 гадоў. У гэтым дыяпазоне спартсмены і выдаюць самае лепшае.

**– На ваш погляд, ці можа Кацярына разлічваць на медалі ў Бразіліі?**

– А чаму і не?! Яна і ў Лондане, думаю, заняла б прызавое месца, каб не праблемы з рэбрамі. Шанцы ёсць заўсёды…

**Алесь СІВЫ.**

СТЫЛЬ

# Як выглядаць прыгожа і модна гэтым летам?



– Каб выглядаць прыгожа і модна, трэба пачынаць з душы. У першую чаргу менавіта яна павінна быць прыгожай. Без гэтага ўсё марна, – упэўнены топ-стыліст Ілля Сімончык. – Модныя тэндэнцыі – гэта толькі падказка. Я заўсёды выступаю за індывідуальны стыль і раю сваім кліентам яго фарміраваць.

На думку майго суразмоўцы, галоўнае – прытрымлівацца ўмеранасці ва ўсім:

– Лепш недастарацца і выглядаць прыстойна, чым перастарацца і быць вульгарнай. У многіх беларусак дзве крайнасці – альбо абсалютная шэрасць і непрыкметнасць, альбо “ўсё і адразу”.

Ілля Сімончык адзначае, што фінансавы крызіс усё ж унёс свае карэктывы, і беларусы сталі крыху радзей наведваць салоны прыгажосці і эканоміць на некаторых працэдурах.

Па словах Іллі, на піке папулярнасці ў гэтым сезоне будуць кароткія стрыжкі, кшталту піксі, фо боб, шэгі лоб. Лета пройдзе пад знакам прагі да натуральнасці ва ўсім:

– У трэндзе “лёгкая нядбайнасць”, быццам вы толькі што ўсталі з ложка ці прыйшлі з пляжу. Такі эфект дасягаецца шляхам спецыяльнай методыкі стрыжкі і ўкладкі валасоў. Але не трэба забываць, што “лёгкая нядбайнасць” зусім не тоесна неахайнасці, таму валасы перад усім павінны быць здаровымі і дагледжанымі. Што ж тычыцца афарбоўкі, то тут таксама пануюць натуральныя колеры плюс розныя эфекты, якія дапамагаюць падкрэсліць рысы твару і правільна расставіць акцэнты: блікі, рэльефы. На валасах ствараецца нібы сонечнае ззянне і пераліва. Між іншым, з ЗША да нас прыйшла і супрацьлеглая мода на штучныя колеры: металічныя, шэрыя, халодныя альбо выбухова-яскравыя – ружовыя, галубыя. Асноўнымі прыхільнікамі яе з’яўляюцца маладыя людзі.

У макіяжы гэтым летам асноўны акцэнт прыпадае на вусны. Дзеля гэтага выкарыстоўваюцца памады і бляскі вінных, слівовых колераў. У модзе па-ранейшаму бровы натуральнай шырокай формы.

Ілля Сімончык падкрэслівае, што сапраўдны стыліст-прафесіянал павінен быць яшчэ і добрым псіхолагам:

– Перш чым нешта рабіць, я абавязкова размаўляю са сваімі кліентамі, каб больш даведацца пра іх: які вобраз жыцця вядуць, чым цікавяцца, займаюцца і г. д. Тады можна больш дакладна і трапна падабраць прычоску. Наогул, беларуская школа цырульніцкага майстэрства мае багатыя традыцыі. А дзякуючы шматлікім перамогам на прэстыжных міжнародных конкурсах пра нас добра ведаюць і за мяжой.

### Марына ПАШКОВА, майстар аднаго з элітных барбершопаў сталіцы:

## «Мужчыны просяць падмаладзіць іх, але пры гэтым хочуць захаваць брутальны выгляд»



– Асноўныя тэндэнцыі мужчынскай мовы мінулага года – вялікія чубы, зачэсаныя назад ці на бок, стрыжаныя віскі і розныя формы барады. Гэта актуальна і сёлета. Адзінае, ідзе трэнд на натуральнасць і дагледжанасць, – распавядае майстар.

Суразмоўца раскрывае сакрэты правільнай барады:

– Яе форма падбіраецца індывідуальна, зыходзячы з асаблівасцяў твару мужчыны. Барада можа файна карэкціраваць знешнасць, дадаючы мужнасці і брутальнасці. Каб яна выглядала яшчэ больш густой і выразнай, яе таніруюць. Гэта толькі здаецца, што адпусціў бараду і забыў. Трэба рабіць абавязковую карэкцыю хаця б раз у 10–14 дзён. Уціраць у скуру адмысловыя воскі, маскі, масла, каб барада лепш расла, была шаўкавістай, выглядала прыгожа, а валасы не блыталіся.

Са слоў Марыны, сёння выпускаецца вялікая колькасць спецыяльных сродкаў для барады і нават для вусоў:

– Усё гэта можна з лёгкасцю набыць і ў Беларусі. І попыт на іх вялікі. Напрыклад, у нашым салоне мы часам не паспяваем рабіць новыя пастаўкі прадукцыі, так хутка яе разбіраюць. Мужчыны наогул апошнім часам сталі больш сачыць за сваёй знешнасцю. Некаторыя нашы кліенты ўжо праз тыдзень прыходзяць да нас ізноў, каб мы нешта там падкарэкціравалі, бо ім важна заўсёды выглядаць ідэальна. Я заўважыла, што мужчыны сталі часцей прасіць падмаладзіць іх, але пры гэтым яны прагнуць захаваць брутальны выгляд. Тут патрэбны вельмі тонкі падыход, бо калі чалавек ужо сталага веку, то, напрыклад, з вялікім чубам, стрыжанымі віскамі ён можа выглядаць смешна і недарэчна. Да таго ж з гадамі многія мужчыны сутыкаюцца з такімі праблемамі, як аблысенне, сівізна. Але сапраўдны прафесіянал зможа выканаць пажаданні кліента з улікам усіх гэтых фактараў. Сёння наша грамадства стала больш талерантна ставіцца да розных праяў самавыяўлення. Пірсінг, татуіроўкі, ярка пафарбаваныя валасы ўжо нікога не здзіўляюць. Памятаю, калі я раней працавала ў іншым салоне, да нас прыйшоў мужчына, які папрасіў пафарбаваць яго цёмныя валасы ў яркі блонд. І яму гэта сапраўды пасавала.

Марына Пашкова падкрэслівае, што недастаткова добра пастрычыся ў салоне, трэба яшчэ пасля правільна даглядаць за валасамі.

– Для валасоў важна падабраць якасныя шампуні і кандыцыянеры. Яны моцна ўплываюць на якасць прычоскі і яе ўкладку. Калі на гэта не звяртаць увагі, то валасы будуць выглядаць прылізанымі, нежывымі, без аб’ёму, можа нават з’явіцца перхаць. Тое ж тычыцца і розных стайлінгавых сродкаў для стварэння модных вобразаў. Напрыклад, у нашым салоне мы заўсёды тлумачым кліентам, як ім трэба даглядаць і ўкладваць створаную намі прычоску.

**Арына САНДОВІЧ.**
**Фота аўтара і з інтэрнэт-крыніц.**

НЕСТАНДАРТ



# Ці з павагай ставяцца да роднай мовы спартсмены?

*На гэтую тэму журналіст “Народнай Волі” гутарыў з грамадскім актывістам і спартыўным заўзятарам **Ігарам Случакам.***

**– Ведаю пра вашу прапанову футбалістам барысаўскага БАТЭ: больш актыўна выкарыстоўвайце беларускую мову…**

– Так, я нават вершаваны адказ атрымаў ад іх:

*Наш шчыры дзякуй Вам за прапановы,*
*Іх будзем ўсебакова разглядаць.*
*Барысаўшчына – край народнай мовы,*
*Яе тут прагнуць людзі зберагаць.*

**– І даўно вы займаецеся прапагандай беларускай мовы?**

– У 2009 годзе я арганізаваў грамадскую ініцыятыву «Справаводства па-беларуску». Гэта ў асноўным ліставанне з чыноўнікамі пра змены ў заканадаўстве. Потым я вырашыў заняцца беларусізацыяй спорту. Прычым не на пустым месцы. Заўважыў, што фанаты актыўна выкарыстоўваюць беларускую мову. Таму і звярнуўся да адміністрацый футбольных клубаў.

**– Якія вынікі?**

– Прагрэс відавочны. У 2012 годзе ніводная каманда вышэйшай лігі не пісала на футболках прозвішчы ігракоў па-беларуску. Першым паказала прыклад брэсцкае “Дынама”. Тады я да іх звярнуўся з такой прапановай: калі ў вас беларускамоўныя футболкі, пачынайце выкарыстоўваць беларускую мову ў дыктарскім суправаджэнні, у праграмках. У адказ пачулі: мы не вельмі добра валодаем мовай Коласа і Купалы і, каб яе не ганьбіць, лепш не будзем наогул выкарыстоўваць. Таму ўжо ў 2014 годзе беларускай мовы на футболках каманды не было. Але ў той жа час у краіне з’явіліся беларускамоўныя дыктары, друкаваная спартыўная прадукцыя на роднай мове.

У 2015 годзе ўжо тры каманды вышэйшай лігі – «Гомель», мінскае «Дынама» і жодзінскае «Тарпеда-БелАЗ» – гулялі ў футболках з надпісамі па-беларуску. У гэтым годзе такіх клубаў ужо шэсць: “Гомель” вылецеў у першую лігу, затое да двух астатніх клубаў дадаліся брэсцкае “Дынама”, сталічныя “Крумкачы”, “Гарадзея” і гродзенскі “Нёман”. У першай лізе (дзе наогул пісаць прозвішчы на майках не абавязкова) такім жа шляхам пайшло мінскае “Тарпеда”.

**– Чаму ў гэтым спісе няма БАТЭ?**

– Што і казаць, у БАТЭ дрэнная сітуацыя з беларускай мовай, хоць *“Барысаўшчына – край народнай мовы”*. Мова выкарыстоўваецца толькі на бігбордах ды пры выступленнях у Лізе чэмпіёнаў, калі прозвішчы павінны быць напісаны на лацінцы, але з выкарыстаннем нацыянальнай арфаграфіі.

**– А як славутая каманда тлумачыць сваю пазіцыю?**

– Мне адказалі так: звярніцеся з гэтымі пытаннямі ў Беларускую федэрацыю футбола. Тое ж самае кажуць і ў некаторых іншых клубах: паколькі федэрацыя вядзе справаводства па-руску, то гэтак жа будзем рабіць і мы. Праўда, сама Федэрацыя свабодна выкарыстоўвае беларускую мову. На майках футбалістаў нацыянальнай зборнай прысутнічае беларуская лацінка.

Хай бы БАТЭ вучылася ў мінскага “Дынама”. Два гады таму генеральным дырэктарам клуба быў Сяргей Паўлюковіч, які ўсяляк праціўіўся беларусізацыі. Казаў, што “Дынама” не займаецца палітыкай, таму не будзе выкарыстоўваць беларускую мову. Хаця пры чым тут палітыка? Летась замест яго прыйшоў Алім Сялімаў, двойчы чэмпіён свету па грэка-рымскай барацьбе. Дарэчы, ён нарадзіўся ў Дагестане, яго бацька – лезгін, маці – агулка. Аднак Алім сказаў, што, калі выступаў на спаборніцтвах за Беларусь, на яго форме быў надпіс на беларускай мове. Таму ён хоча, каб у яго клубе выкарыстоўвалася нацыянальная мова. І вось цяпер па-беларуску і прозвішчы на майках, і друкаваная прадукцыя, і дыктар абвяшчае саставы каманд на мове. У дынамаўцаў самы лепшы спартыўны сайт, які працуе адразу на трох мовах – беларускай, рускай і англійскай.

**– А якая сітуацыя з мовай у іншых відах спорту?**

– Ёсць станоўчыя прыклады. Сталічны баскетбольны клуб «Цмокі» вядзе камунікацыю выключна па-беларуску. Сайт клуба мае дзве моўныя версіі – беларускую і англійскую. Больш-менш выкарыстоўвае мову сталічнае хакейнае “Дынама”. Але наогул сітуацыя нярадасная.

**– Якую пазіцыю займаюць асобныя спартсмены?**

– Прыхільнасць да беларускай мовы выказваюць футбаліст Віталь Радзівонаў, лёгкаатлетка Аліна Талай… Але я асабліва адзначыў бы Мікалая Януша, форварда салігорскага “Шахцёра”, які летась і пазалетась стаў лепшым бамбардзірам чэмпіянату Беларусі. На афіцыйным закрыцці сезона 2015 года Мікалай бліскуча выступіў па-беларуску, нягледзячы на тое, што ўся цырымонія вялася выключна па-руску. Ведаю і шэраг іншых спартсменаў, якія з гонарам нясуць роднае слова ў масы. Таму ёсць усе падставы для аптымізму.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ.**

СКАНДАЛ



## Аляксандр БАГДАНОВІЧ:
# «Раздзьмулі з мухі слана»

*Алімпійскі чэмпіён распавёў “Народнай Волі” пра скандал вакол сваёй асобы.*

Французская газета Le Monde паведаміла пра допінг у беларускай камандзе па веславанні на байдарках і каноэ – быццам бы 17 допінг-проб беларускіх весляроў паказалі станоўчы вынік на забароненае рэчыва мельдоній. Акрамя таго, адзначалася, падчасператрусу былі знойдзены сляды *«больш цяжкага допінгу, чым мельдоній»*, *«стымулюючыя прадукты»* і *«інструменты для падскурнага і іншых спосабаў увядзення лекавых сродкаў»*.

Аднак галоўны трэнер зборнай Беларусі **Уладзімір Шантаровіч** пазней прызнаў, што сляды мельдонія сапраўды выяўлены ў пяці беларускіх спартсменаў, двое з іх – гэта алімпійскія чэмпіёны браты Багдановічы.

– Апошні раз асабіста я прымаў мельдоній у жніўні мінулага года, калі прэпарат яшчэ не быў забароненым, – распавёў учора “Народнай Волі” **Аляксандр Багдановіч**. – У сакавіку Французскае нацыянальнае антыдопінгавае агенцтва ўзяло ў нас пробы, знайшлі астаткі мельдонія. З гэтай нагоды і вядзецца расследаванне, хаця не думаю, што змест прэпарата ў арганізме перавышае норму.

**– Але французская прэса падае ўсё гэта як скандал…**

– Гэта ўжо другая хваля пайшла, спачатку падднялі вэрхал у замежнай прэсе, калі да нас французская паліцыя прыйшла з вобыскамі. Раздзьмулі з мухі слана.

**– Ці ўплываюць скандалы на вашу падрыхтоўку да Алімпіяды?**

– Можа, нейкім чынам і ўплываюць, але я гэтага не адчуваю.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ШАХМАТЫ



## Творчество читателей

Задачу на диаграмме составили Михаил Крупник (г.Минск) и Николай Бельчиков (г.Борисов).

**Белые:** Кра7, Фс3, Лd1, Лh8, Cb8, Kf6, пп.b4, c4, c5 (9).

**Черные:** Крс6, Фh1, Cd5, Kd7, Kg8, пп.b5, b6, f7 (8).

**Мат в 2 хода.**

Присылайте решения на адрес редакции (220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а) или на электронный адрес: vadim_ne67@mail.ru.

## Шахматы Фишера

Наши читатели задают вопрос: что такое «шахматы Фишера»? Их предложил в 1996 году 11-й чемпион мира Роберт Фишер. По его мнению, новый вариант шахмат вынуждает игрока уже с первых ходов мыслить самостоятельно, а не пользоваться готовыми «дебютно-компьютерными наработками». Сейчас проходит немало турниров по шахматам Фишера, вплоть до чемпионатов мира.

Сами правила игры в целом привычны для нас, а вот начальная расстановка фигур выбирается отдельно для каждой партии. Пешки стоят на тех же позициях, что и в обычных шахматах; одна ладья должна находиться слева от короля, другая – справа (то есть король в начальной позиции не может находиться на вертикалях a и h); слоны должны находиться на полях разного цвета; начальные позиции белых и черных являются симметричными (то есть черные фигуры должны стоять на тех же вертикалях, на которых стоят одноименные белые). При таких ограничениях возможно 960 различных начальных позиций (отсюда одно из названий игры – «шахматы 960»). Одна из начальных позиций совпадает с классической.

Есть некоторые «тонкости» у рокировки, но при короткой рокировке король всегда ставится на вертикаль g, а ладья – на вертикаль f, при длинной рокировке король – на вертикаль c, а ладья – на d. Если одна из рокируемых фигур в начальной позиции уже стоит на конечном поле рокировки, то в результате рокировки она остается на этом поле, и перемещается только вторая фигура.

## Турнирные новости

На турнире по быстрым шахматам в Минске (восьмой этап Кубка Алешко) призовую тройку составили Михаил Никитенко, Владислав Ковалев и Виктор Купрейчик. На турнире в Париже Валерий Казаковский был 18-м из 226 участников, а в Тбилиси Сергей Жигалко финишировал 4-м из 69. Клубный чемпионат Беларуси выиграла команда «Вектор» (Кирилл Ступак, Павел Ломако, Виталий Тетерев, Евгений Подольченко, Юрий Тихонов, Дмитрий Новицкий, Андрей Малюш и Игорь Раткович), вторым был «Итранзишен», третьей – «Белая вежа». Честь своих клубов защищали в том числе Владислав Ковалев, Алексей Александров, Виктор Купрейчик, Игорь Люцко, Анастасия Зезюлькина, украинский гроссмейстер-легионер Александр Бортник.

## Проверьте решения

**Задача И.Агапова от 26 апреля:** 1.K:c5! ~ 2.Kc8+, 1...Лe5+ 2.Kf5+, 1...Лf6+ 2.Kd3+, 1...Кре5 2.Кс4+, 1...Крd4 2.Kb3+, 1...C:e7 2.Kce4+. Задача К.Млынки: 1.Ca5! Кра2 2.Лс3, 1...Кр:а4 2.Сс3. Задачи от 19 и 26 апреля первым правильно решил Игорь Ананич (Гродно).

**Вадим ЖИЛКО.**

Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.
Тэл. рэкламнага аддзела:
(017) 3286609
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

9 772071 964000 16041

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 30.05.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 020 экз. Заказ № 1723